№ 143 (725)
Субота, 7 жніўня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас









# У каждого слова своя цена!

**Час і паэт**

Ніл ГІЛЕВІЧ



## Юбілейнае

*Годзе ныць! І слёзных песень годзе!*
*Беларусь-Радзіма! Адзначай*
*І святкуй сямідзесяцігоддзе*
*Барацьбы-змагання за ўраджай!*

*Сем дзесяткаў год, як "горны сокал"*
*Узмахнуў і над табой крылом —*
*І пад небам мар тваіх высокіх*
*Прагрымеў "вялікі пералом".*

*І пайшло, паехала, папёрла*
*Новай вёскі новае жыццё.*
*Хлеба стала — кожнаму па горла,*
*Нават, лішні, за мяжу пацёк.*

*З той пары мы і жывём у бітвах*
*За "вялікі хлеб", і кожны год —*
*Акрылёна, дружна, маналітна —*
*Жнем і сеем з песняй пра народ.*

*А на белым свеце, скрозь і ўсюды,*
*Па-даўнейшаму дасюль жывуць:*
*Ціха сеюць, вахлакі-няўклюды,*
*Ціха даглядаюць, ціха жнуць.*

*Не датумкаюць ніяк, няўмекі,*
*Што без слаўнай бітвы за ўраджай*
*Не напоўніць збожжа іх засекі —*
*Хоць святых на помач запрашай;*

*Што не пойдзе хлеб патокам бурным*
*Без каманды і без барацьбы,*
*Без агністых лозунгаў трыбунных,*
*Без зазыўных поклічаў трубы;*

*Што духмяны бохан ім не спекчы,*
*Каб, смакуючы, быў кожны рад, —*
*Без "разносных" выязных інспекцый,*
*Без крутых селектарных нарад...*

*О, якое гэта шчасце ўсё-такі,*
*Што мы вернасць курсу зберaглі!*
*І што ёсць чатыры з гакам соткі,*
*Каб зусім падохнуць не маглі.*

*1999, ліпень.*

## Жыцьмеш і гучацьмеш!

*Сёння ў нас не навіна —*
*Які хочаш форум.*
*Сходка вось была адна,*
*На чале з членкорам.*

*Незвычайная але ж,*
*Бо вялі размову*
*Не пра мяса, не пра хлеб,*
*А пра нашу мову.*

*Нашу родную! — якой*
*Мы, чытач, гаворым.*
*З-за якой і неспакой*
*Членам і членкорам.*

*Не сказаць каб малады*
*Быў народ у зале:*
*Пераважна ўжо дзяды*
*З сінімі насамі.*

*І сказаў членкор Глюгач:*
*— Беларускай мове*
*Жыць і поціху канаць —*
*Сто гадоў, не болей,*

*— Дай ёй Божа пяцьдзесят*
*Праліпець-прахліпаць, —*
*Запярэчыў дзед Дзюбач*
*З навуковай пыхай.*

*Зварухнуліся ў радах,*
*Закрычалі: "Згодны!*
*Сто замнога! Трэба даць*
*Максімум паўсотні!"*

*І тады стары Пугач,*
*Самы ў гадстве стойкі,*
*Гарлануў на ўвесь гарлач:*
*— А нашто ёй столькі!*

*Дваццаць пяць мы ёй дадзім,*
*Так бы мовіць, "вышку".*
*Зрэшты, потым паглядзім —*
*Мо і ўменшым крышку.*

*Так з апломбам і ўсур'ёз,*
*Хіжа-груганова*
*Вырашалі злыдні лёс —*
*Твой, Матуля-Мова!*

*О, Вялікая! Даруй*
*Гэтым ніцым суддзям.*
*Перад шушамеццю рук*
*Падымаць не будзем.*

*Шмат ты зведала судоў,*
*Шмат цябе крамсала*
*Глюгачоў і дзюбачоў,*
*Пугачоў таксама.*

*Схлынуць, згінуць глюгачы,*
*Дзюбачы паз'едуць,*
*Пазлятаюць пугачы...*
*Чыста — а ні следу!*

*Нават дух іх скразнякі*
*Выдзьмуць цераз насцеж...*
*Ну а ты — і праз вякі*
*Жыцьмеш і гучацьмеш!*

*1999, ліпень.*

## Воля ваша, панове!

*Пакуль з экрана тлуста-густа*
*Плыве хлусня, паклёп і глупства —*
*Ганіце рытмы, рытмагоны!*
*Званіце ў рыфмы, рыфмазвоны!*

*Пакуль плятуцца здрады-змовы*
*І кляпы клепяцца для мовы —*
*Пляціце плёткі, рыфмаплёты!*
*Кляпіце клёпкі, вершаклёпы!*

*Пакуль слязьмі сыходзіць Маці*
*Па вязню-сыну ў каземаце —*
*Пампуйце строфы, рыфмадуі!*
*Штампуйце тропы, славасуі!*

*Пакуль народу робяць пойла,*
*Каб ён хлябтаў і спаў спакойна —*
*Рабіце песні, вершаробы!*
*Хлябчыце пепсі, рыфмахлёбы!*

*Так і жывіце, не тужыце,*
*Здароўе, нервы беражыце,*
*Як і дагэтуль, будзьце ў ласцы —*
*І вам аддасца! Вам аддасца!!!*

*1999 г.*

**Стоп-кадр**



Александр Лукашенко периодически заявляет, что принципиальных противоречий между Беларусью и США больше не существует. Тогда непонятно, почему посол США в Беларуси Дэниэл Спекхард по-прежнему находится в Вашингтоне, а не по месту своих служебных обязанностей. Кто-то кого-то опять не понял?

**Закулисье**

Михаил ПОДОЛЯК

# Электронная цензура?

*Президент готовится подписать указ о создании специального контролирующего органа в области телерадиовещания*

Удивительно, испепеляющая летняя жара абсолютно не сказалась на активности отдельных политических персонажей. Политики, независимо от их лагерной принадлежности, словно сговорившись, выдавливают из себя одну за другой странные инициативы. Так, общественность пока еще никак не может понять, что за идею по "созданию системной, интегрированной во власть оппозиции" лоббирует КНГ ОБСЕ. Увидеть свет грозится *"новая государственная программа по обеспечению нормального и адекватного функционирования рынка электронных средств массовой информации"*. Вряд ли появление невразумительной программы следует рассматривать как возможное смягчение позиций официального Минска в области свободы слова и права граждан на свободное распространение информации. А ведь иные политики открыто заявляют, что власть готова к диалогу.

Автор ожидаемого президентского указа — Иван Иванович Пашкевич. В последнее время заместитель главы президентской Администрации действительно несколько ушел в тень. В частности, Пашкевич так ни разу и не высказался по проблеме "21 июля", никак не откомментировал последние заявления президента и силовые действия властей. А ведь сглаживание, так сказать, неровностей в отношениях Администрации и общественного мнения — первейшая функция Пашкевича.

Впрочем, теперь столь длительное молчание влиятельного чиновника получило вразумительное пояснение. По моим сведениям, в конце прошлой недели на стол к президенту попала записка, подписанная Иван Ивановичем, где обосновывается идея создания на базе Министерства связи так называемого *Комитета по контролю за использованием электронного информационного ресурса.* Зам. главы президентской Администрации до появления вышеозначенного предложения не очень-то демонстрировал свою приверженность тоталитарным, цензорским методам управления СМИ. Ведь фактически под его руководством на рынке уже достаточно долго существует телерадиокомпания "Мир".

Похоже, Иван Пашкевич просто утрачивал собственные позиции влияния на президента, на проводимую им политику. А информационное детище Иван Ивановича так и не смогло выйти на серьезный бизнес-уровень. Видимо, исходя из соображений личной перспективы, ему пришлось решиться внести на рассмотрение президента столь радикальное предложение. Зная характер Лукашенко, можно предположить, что Иван Иванович начинает восстанавливать пошатнувшиеся было позиции в его окружении.

Судя по отрывочным данным, на первом этапе предложено использовать материально-техническую и кадровую базу Министерства связи. Но, как заявил в беседе с журналистом один из высокопоставленных сотрудников Минсвязи, *"вряд ли комитет будет полностью копировать все нынешние структуры министерства. Уже сейчас понятно, что у новой структуры будут несколько иные задачи и функции. А потому, на мой взгляд, большинство специалистов Минсвязи, особенно не интересующихся политикой, просто лишаться своей работы"*.

Что же на практике будет означать создание подобного комитета. Во-первых, выдача частотных лицензий, а также частотно-техническая аттестация будут теперь сопряжены с откровенным замером политической лояльности у действующих и потенциальных участников рынка электронных СМИ. Впрочем, и раньше белорусские теле- и радиостанции не отличались особой политической принципиальностью. Слишком дорогой бизнес, чтобы конфликтовать с властями. Но ведь на территорию Беларуси вещают российские телерадиостанции, а в приграничных с Прибалтикой и Украиной регионах станции этих сопредельных государств. Очевидно, что сегодня как никогда актуальна тема *"введения моратория на определенную тематику в вещании сопредельных государств"*. Во-вторых, предполагается, что комитет разработает некую единую информационную программу в преддверии тяжелых избирательных кампаний. На повестке дня по-прежнему остро стоит задача *"формирования адекватного общественного мнения"*. Особенно важно воссоздать полную иллюзию не только самого выборного процесса, но также и возможность доступа *"широкой общественности, в том числе и политиков оппозиционного толка"* к электронным СМИ. По мнению Пашкевича, все белорусские электронные СМИ должны демонстрировать *"единство в пропагандировании государственных ценностей"*. В-третьих, давно подмечено, что особую озабоченность у нынешних властей вызывает *"абсолютная неконтролируемость ресурсов Интернета"*. Понятно, что сам Иван Иванович в этом не очень разбирается. Но, по крайней мере, он надеется собрать приличную команду, способную установить хотя бы внешний контроль за использованием интернет-ресурсов.

Судя по всему, власти решительно настроены побороться также и за рынок влияния в смежных с Беларусью областях. Бытует мнение, что президенту не очень нравится тот образ **его республики,** который сложился у некоторых наших соседей. А потому он требует принятия адекватных мер. Очевидно, что если в самой Беларуси достаточно учреждения единого цензорского центра, то для приграничных районов потребуются куда более тонкие методы работы.

Несомненно, Пашкевич инициирует создание подобного комитета и в личных целях. По имеющейся у нас информации, зам. главы президентской Администрации сам и намерен возглавить новоиспеченное учреждение и таким образом получить возможность контроля за всем электронным пространством Беларуси.

С другой стороны, президент Лукашенко недвусмысленно высказался, что Беларусь в ближайшее время должна легитимизировать в глазах мировой общественности все свои институты власти. Экономике нужны кредиты и стабильные рынки сбыта. Ведь Россия сегодня не в состоянии покрывать все расходы на поддержание известного режима. Несмотря на прохладный политический климат как внутри республики, так и за ее пределами, власти однозначно собираются провести полноценные парламентские и президентские выборы. Правда, власти и не скрывают того факта, что подойдут к этому процессу во всеоружии, а это означает, что они по-прежнему намерены контролировать всю пропагандистскую ретрансляционную сеть.

**Зона**

## А.Лукашэнка падпісаў указ "Аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны "Віцебск"

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ "Аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны "Віцебск". Яна ствараецца на тэрмін 30 гадоў у межах, вызначаных Віцебскім аблвыканкамам.

Згодна з указам, СЭЗ "Віцебск" на пяць гадоў вызваляецца ад абкладання падаткам на сумы, атрыманыя ад рэалізацыі прадукцыі ўласнай вытворчасці. Прыбытак, накіраваны рэзідэнтамі гэтай зоны на інвестыцыі ў Рэспубліцы Беларусь, таксама не падлягае падаткаабкладанню.

Як адзначаецца ў дакуменце, ён прыняты "ў мэтах прыцягнення айчынных і замежных інвестыцый для арганізацыі развіцця вытворчасцяў, заснаваных на новых і высокіх тэхналогіях, стварэння дадатковых рабочых месцаў, забеспячэння спрыяльных умоў для эканамічнага развіцця рэгіёнаў рэспублікі".

**БелаПАН.**

## У 2000 годзе дапамога TACIC будзе накіравана ў пацярпелыя ад аварыі на ЧАЭС раёны Беларусі

Кіраўнік офіса TACIC прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі ў Беларусі спадар Рауль дэ Люзэнбергер наведаў з рабочым візітам Гомель. Асноўнай мэтай яго паездкі стала знаёмства з дзейнасцю Гомельскага рэгіянальнага агенцтва эканамічнага развіцця. Створанае ў 1997 годзе агенцтва займаецца праблемай эканамічнай рэабілітацыі пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС раёнаў вобласці. Спадар дэ Люзэнбергер паведаміў, што Еўрапейская камісія прыняла рашэнне не працягваць супрацоўніцтва з Беларуссю ў 2000 годзе, але пры гэтым накіраваць патокі дапамогі менавіта ў пацярпелыя ад катастрофы раёны. Зыходзячы з гэтага, кіраўнік офіса TACIC абмеркаваў з кіраўніцтвам агенцтва праблемы Гомельшчыны і заявіў, што ў праграме TACIC на наступны год будуць прадугледжаныя сродкі для фінансавання праектаў тэхнічнай дапамогі прадпрыемствам і развіцця грамадзянскай супольнасці.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## А.Лукашэнка запэўніў расійскіх журналістаў, што прэзідэнцкія і парламенцкія выбары пройдуць у Беларусі ў строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй

Адказваючы на пытанні журналістаў "Российской газеты", кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка вызначыў сваю пазіцыю па шэрагу ўнутры- і знешнепалітычных пытанняў. Што да сітуацыі ўнутры рэспублікі, то, як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, А.Лукашэнка нагадаў расійскім журналістам пра вынікі рэферэндуму ў лістападзе 1996 года, на якім былі прыняты змяненні ў Канстытуцыю. Апазіцыя ў той час, падкрэсліў А.Лукашэнка, мела не меншыя, чым у прэзідэнта, шансы. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, "дасягненнем" Беларусі з'яўляецца тое, што ўдалося разабрацца з "антыканстытуцыйным крызісам дэмакратычным шляхам", пазбегнуўшы сілавога варыянту, які меў месца ў Расіі ў 1993 годзе.

А.Лукашэнка запэўніў расійскіх журналістаў, што маючыя адбыцца парламенцкія і прэзідэнцкія выбары пройдуць у Беларусі строга ў абазначаныя Канстытуцыяй тэрміны — у 2000-м і 2001 годзе, адпаведна. "Я вас запрашаю праз год прыехаць да нас. Вы ўбачыце, што такое дэмакратыя, паглядзіце, як мы правядзем гэтыя парламенцкія выбары. Яны пройдуць у тэрмін. Тое ж самае і прэзідэнцкія", — заявіў ён. Як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, А.Лукашэнка пацвердзіў свой намер удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах і працягваць лінію на "захаванне стабільнасці і законнасці ў дзяржаве — той законнасці, якую многія чамусьці называюць дыктатурай". "Я ўстанавіў правілы дакладныя, але жорсткія", — заявіў кіраўнік дзяржавы. Ён таксама падкрэсліў сваю пазіцыю ў сферы знешняй палітыкі. Беларуска-расійскі саюз, паводле яго слоў, застаецца галоўным прыярытэтам, паколькі ён можа стаць "магутным геапалітычным блокам" і супрацьстаяць іншым блокам. Гэтая перспектыва, паводле слоў А.Лукашэнкі, падабаецца далёка не ўсім. "Хто хоча бачыць новае геапалітычнае ўтварэнне, якое будзе цэнтрам новай сілы? Гэта будзе цэнтр, які будзе супрацьстаяць і амерыканцам, і Заходняй Еўропе", — заявіў А.Лукашэнка. У той жа час ён падкрэсліў намер беларускага кіраўніцтва захоўваць лінію на "канструктыўны дыялог з Захадам".

**Наталля КУЛАГІНА.**

**P.S.** *Лукашэнка ўжо шмат абяцаў беларускаму народу. Бог дасць, на гэты раз ён не падмане...*

## Японцы наведаюць Беларусь

22—24 жніўня Мінск па запрашэнні Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў наведае дэлегацыя Такійскай гандлёва-прамысловай палаты на чале з генеральным сакратаром аддзялення раёна Ота спадаром Івакі Тадасі. Пра гэта паведаміў прэзідэнт саюза Уладзімір Карагін.

Папярэдняя дамоўленасць аб гэтым візіце, паводле яго слоў, была дасягнута падчас наведвання ім Японіі па запрашэнні ўрада гэтай краіны вясной гэтага года. Вялікую дапамогу ў арганізацыі візіту аказала беларускае пасольства ў Японіі. У склад дэлегацыі ўвойдуць кіраўнікі японскіх прадпрыемстваў, працуючых у галіне аўтамабілебудавання, металаапрацоўкі, электронікі, нафтахіміі і транспартных паслуг. Праграма візіту японскіх бізнесменаў у Мінск прадугледжвае наведванне завода "Ударнік", які ўваходзіць у канцэрн "Амкадор", Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, Беларускага і Мінскага саюзаў прадпрымальнікаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

**Надвор'е**

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер заходні — 3—8 м/с, пры навальніцах парывы да 12—14 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +11...+16, удзень — +22...+27. Па поўначы рэспублікі — +19...+24.

**Пресс-конференции. О чем говорилось?**

## В 1999 году число лиц, привлеченных на Беларуси к административной ответственности, вновь увеличилось. А что нас ждет в 2000 году?

Председатель Верховного суда Валентин Сукало довел до журналистов итоги работы системы общих судов Республики Беларусь за первое полугодие 1999 года. Как следует из представленных им статистических данных, в 1999 году на 6,5 процента увеличилось число белорусских граждан, привлеченных к административной ответственности через суды, и всего составило 132572 человека. Соответственно увеличилось количество оштрафованных судами (67818 чел.) и арестованных (38034 чел.).

Как правозащитник, я задал Валентину Олеговичу два вопроса:

**1. Почему несмотря на постановление пленума Верховного суда при рассмотрении административных дел не соблюдается принцип презумпции невиновности? Почему судьи верят только рассказам свидетелей-милиционеров и напрочь отвергают показания свидетелей, представленных обвиняемым?**

**2. Почему в нарушение конституционных гарантий об открытом разбирательстве дел под предлогом отсутствия в своем кабинете стульев административные судьи пытаются не допустить прибывших на процесс граждан и представителей СМИ?**

Валентин Сукало ответил, что свидетельские показания милиционеров имеют одинаковый вес с показаниями других лиц. А уж какие из них принимать за действительные — дело судьи, его внутренних убеждений.

Но убеждения эти таковы, что, как подчеркнул сам председатель Верховного суда, 20 процентов (каждое пятое из числа рассмотренных Верховным судом) наложенных административных взысканий отменены. Валентин Олегович заверил, что и дальше все жалобы лиц, привлеченных к административной ответственности, будут Верховным судом рассматриваться самым тщательным образом.

В целях предотвращения указанных случаев в дальнейшем во все суды направлено письмо, в котором обращается внимание судей на недопустимость нарушения конституционного принципа открытости и равенства сторон в административном процессе.

Валентин Сукало выразил надежду, что в дальнейшем ныне существующая проблема с недостатком мест проведения судебных заседаний будет положительно решена.

Что ж, будем надеяться.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

## Паводле слоў старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Сукалы, сёлета ў Беларусі загінулі 6186 чалавек

Вынікам работы судовай сістэмы Беларусі за першае паўгоддзе 1999 года была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая прайшла 5 жніўня ў Нацыянальным прэс-цэнтры з удзелам старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Сукалы і старшыні рэспубліканскага савета суддзяў Івана Мінца. Старшыня Вярхоўнага суда адзначыў, што пасля ўказу прэзідэнта ад 21 красавіка судзейскі корпус папоўніўся 95 суддзямі па адміністрацыйных справах і выканаўчай вытворчасці. З 1 ліпеня ў дзеянне ўступіў новы Грамадзянскі працэсуальны кодэкс.

За гэты час у суды на разгляд паступіла 26970 крымінальных спраў, што на 2,4 працэнта менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года, і 73064 грамадзянскіх спраў, а таксама больш за 130 тысяч адміністрацыйных спраў (больш на 6 працэнтаў). У першым паўгоддзі былі асуджаныя 28.466 чалавек — на 500 чалавек менш, чым у першым паўгоддзі 1998 года. Апраўдана 90 чалавек, вызвалены з-пад варты і спынены справы ў дачыненні да 344 чалавек. Рэабілітаваныя па справах 20—80-х гадоў звыш за 300 чалавек. Колькасць загінуўшых ад злачынстваў у першым паўгоддзі склала 1204 чалавекі, што некалькі менш, чым летась, і складае 20 працэнтаў ад агульнай колькасці загінуўшых у краіне — 6186 чалавек.

Большую частку ў структуры судзімасцяў займаюць злачынствы з карысталюбства — 49,4 працэнта. На 40 працэнтаў вырасла колькасць асуджаных за злачынствы, учыненыя ў стане алкагольнага ап'янення, на 37 — за групавыя злачынствы. Некалькі скарацілася колькасць асуджаных жанчын — на 17 працэнтаў і падлеткаў — на 9,9 працэнта. Самым частым пакараннем у практыцы судоў з'яўляецца пазбаўленне волі — за першае паўгоддзе ў структуры пакаранняў гэтая лічба дасягнула 37,7 працэнта, ці 10623 асуджаных. А самы распаўсюджаны тэрмін пазбаўлення волі — ад 3 да 5 гадоў.

Сёлета пачалі прызначацца новыя віды пакарання: да пазбаўлення волі на тэрмін ад 15 да 25 гадоў прыгавораныя 118 чалавек, да пажыццёвага зняволення — 5 чалавек, а ўсяго пажыццёвае зняволенне адбываюць 7 чалавек, да кароткіх тэрмінаў пазбаўлення волі — да 6 месяцаў арышту — прыцягнутыя каля 100 чалавек. Да выключнай меры — пакарання смерцю — за 6 месяцаў 1999 года прыгавораныя 10 чалавек, за той жа перыяд 1998 года — 13. Але паколькі на працягу ўсяго мінулага года да выключнай меры пакарання былі прыгавораныя 47 чалавек, то сёлета выканана 23 смяротных прыгаворы. На 1 ліпеня 1999 года ў месцах пазбаўлення волі знаходзіліся 58.426 чалавек. Непасрэдна ў калоніях — 45.825 чалавек. Гэта на 3 тысячы менш, чым летась, што стала вынікам амністыі, па якой вызваленыя больш за 9 тысяч чалавек.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

Пр. Ганны, Макара, Марка.
К. Дароты, Каятана, Сікста.

**ЖНІВЕНЬ 7**
'99 СУБОТА

Усход 5.33
Захад 20.57
Даўж. дня 15.24

Апошн. квадра 4 жніўня
Усход 2.19
Захад 19.01

Пр. Праскоўі, Ермалая, Майсея.
К. Дамініка, Цыпрыяна, Эміліяна.

ДЗЕНЬ БУДАЎНІКА

**ЖНІВЕНЬ 8**
'99 НЯДЗЕЛЯ

Усход 5.35
Захад 20.55
Даўж. дня 15.20

Маладзік 11 жніўня
Усход 3.10
Захад 20.02

Пр. Анфісы, Германа, Клімента, Навума, Мікалая, Панцеляймона, Савы.
К. Рамана, Рамуальда.

**ЖНІВЕНЬ 9**
'99 ПАНЯДЗЕЛАК

Усход 5.37
Захад 20.53
Даўж. дня 15.16

Маладзік 11 жніўня
Усход 4.11
Захад 20.52

Рэгіёны

## Колькасць гомельскіх бюракратаў павялічваецца

Гомельскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб стварэнні каардынацыйнага савета па інфармаванні насельніцтва і сувязях з грамадскасцю. Сваім з'яўленнем савет абавязаны рэкамендацыям Адміністрацыі прэзідэнта, якая разгледзела вопыт работы аналагічнага органа пры Бабруйскім гарвыканкаме і палічыла яго вартым распаўсюджвання на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. У склад гомельскага савета ўвайшлі прадстаўнікі Таварыства "Веды", Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, адміністрацый чатырох раёнаў горада, шэрагу ўпраўленняў гарвыканкама і абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў. Адной з задач створанага савета стане кантроль за якасцю выканання службовых абавязкаў намеснікамі па інфармацыйнай рабоце дырэктараў прадпрыемстваў, падачы інфармацыі ў СМІ, і, у прыватнасці, у газеце, заснаванай гарадскімі ўладамі. Мяркуючы па ўсім, асноўнай дзейнасцю новага савета будзе ідэалагічная работа.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Пінск па-ранейшаму лідыруе ў Брэсцкай вобласці па колькасці ВІЧ-інфіцыраваных

116 ВІЧ-інфіцыраваных зарэгістраваныя на сёння ў Брэсцкім абласным цэнтры прафілактыкі СНІД. Як паведаміў БелаПАН загадчык прафілактычнага аддзела Цэнтра Сцяпан Завада, у "чорным спісе" па-ранейшаму лідыруе Пінск, у якім выяўлены 68 інфіцыраваных, далей ідуць Баранавічы, дзе жывуць 15 чалавек, заражаных смяротным вірусам, у Брэсце такіх налічваецца 12 чалавек. Заражаныя выяўлены практычна ва ўсіх буйных гарадах вобласці, толькі шэсць раёнаў Брэстчыны ўмоўна могуць лічыцца чыстымі ад гэтай інфекцыі. Паводле статыстыкі, 90 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных — наркаманы, 80 працэнтаў — маладыя людзі ва ўзросце да 30 гадоў. У Пінску, як сцвярджае С.Завада, колькасць інфіцыраваных вірусам СНІД расце таму, што ў горадзе шмат моладзі, якая ўжывае наркотыкі.

Як паведаміў С.Завада, летам работа па прафілактыцы СНІД не спынілася, нягледзячы на масавыя адпачынкі і канікулы: сёння ў Цэнтры рыхтуюцца да выступленняў на жнівеньскіх нарадах настаўнікаў, складаюць план мерапрыемстваў да Сусветнага дня прафілактыкі СНІД, які праводзіцца 1 снежня.

## Пажарная служба і міліцыя Брэсцкай вобласці нясуць дзяжурства на палях

Пытаннямі захавання новага ўраджаю сёння занепакоены не толькі працаўнікі вёсак Брэсцкай вобласці — "хлебная" тэма стала адной з галоўных для пажарнай службы і міліцыі. Па даных Брэсцкага абласнога цэнтра супрацьпажарнай бяспекі, штотыднёва іх супрацоўнікі выязджаюць у рэйды на палі вобласці. Задоўга да жніва пажарнымі вобласці былі распрацаваныя мерапрыемствы па прафілактыцы пажараў, указанні наконт гэтага паступілі ў гаспадаркі. Сёння пажарнай службай вобласці выдзелена 65 пажарных машын, якія дзяжураць на палях; каля 300 адзінак тэхнікі прыстасавалі для гэтага самі гаспадаркі. Пакуль, як паведаміў БелаПАН дырэктар цэнтра супрацьпажарнай бяспекі Ігар Аўсянік, пажараў на палях не было, не загараліся і машыны, як было летась. Разам з тым, у многіх гаспадарках удзельнікі рэйдаў назіраюць невыкананне элементарных мер супрацьпажарнай бяспекі.

Праваахоўныя органы, у сваю чаргу, спыняюць спробы крадзяжу зерня: напрыклад, падчас аперацыі "Аграрнік" гаспадаркам былі вернуты 13 выкрадзеных мяшкоў зерня новага ўраджаю. Вечарам таго ж дня ў Бярозаўскім раёне быў затрыманы аўтамабіль "Фольксваген-Пасат", у якім знаходзілася 6 мяшкоў пшаніцы.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

Даўгі

## Запазычанасць гаспадарчых суб'ектаў рэспублікі за нафтапрадукты склала больш за 900 млрд. рублёў

Па стане на 16 ліпеня запазычанасць гаспадарчых суб'ектаў рэспублікі за ўжытыя нафтапрадукты склала 922 млрд. рублёў і вырасла ў параўнанні з 2 ліпеня 1999 года на 20 працэнтаў. Для прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу, гэтыя лічбы склалі, адпаведна, 691 млрд. рублёў і 20 працэнтаў. У той жа час, паводле звестак з "Белнафтахіма", пастаўкі нафтапрадуктаў вытворцамі сельгаспрадукцыі ажыццяўляюцца ў першачарговым парадку, у тым ліку без папярэдняй аплаты. Па дадзеных канцэрна "Белнафтахім", для правядзення ўсяго комплексу сельскагаспадарчых работ у першым паўгоддзі гэтага года было пастаўлена для патрэб сельскай гаспадаркі 176 тысяч тон бензінаў аўтамабільных і 420 тысяч тон дызельнага паліва, што складае, адпаведна, 114 і 160 працэнтаў да аналагічнага перыяду 1998 года. За студзень—чэрвень 1999 года прадпрыемствамі канцэрна "Белнафтахім" рэалізавана спажыўцам рэспублікі 2,5 млн. тон нафтапрадуктаў (на ўзроўні адпаведнага перыяду мінулага года), у тым ліку бензінаў аўтамабільных — 460 тысяч тон (85 працэнтаў), дызельнага паліва — 678 тысяч тон (107 працэнтаў), мазута топачнага — 1099 тысяч тон (102 працэнта). Сістэмай канцэрна забяспечана больш за 64 працэнты патрэбаў унутранага рынку ў нафтапрадуктах.

**Яўген ГРУБІЧ.**



Стоп-кадр



*Новое поколение опять приучают к "новым старым вождям"?*

## Гомельскі абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі вядзе з мінулага году ўлік захворванняў на серозны менінгіт

Па дадзеных Гомельскага абласнога цэнтра гігіены і эдідэміялогіі, у ліпені каля 15 гамяльчан захварэлі на серозны менінгіт. Эпідэмію гэтай інфекцыі Гомель перажыў у 1997 годзе, і з таго часу мясцовыя эпідэміёлагі — адзіныя ў рэспубліцы, хто вядзе рэгістрацыю выпадкаў захворвання, тады як нарматыўныя дакументы не патрабуюць такой справаздачнасці. Як заявіў загадчык эідэміялагічнага аддзела цэнтра Расціслаў Зіновіч, 15 выпадкаў — не больш чым сезонная праява інфекцыі, якая не павінна выклікаць неспакою. У той жа час, сёлета у вобласці высокая колькасць захворванняў на кішэчныя інфекцыі. Яна прыкладна на трэць вышэй за леташні ўзровень, а хворых на дызентэрыю сёлета ў два разы больш за мінулы год. На думку Р.Зіновіча, гэта тлумачыцца шматгадовымі цыкламі колькасці захворванняў, у адпаведнасці з якімі дызентэрыя цяпер на пікавым узроўні. На шчасце, выпадкаў масавых захворванняў не зафіксавана. Р.Зіновіч паведаміў, што эпідэміялагічная сітуацыя ў вобласці знаходзіцца пад пастаянным кантролем.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Рэха

## ...І палітыкам трэба правяраць факты

У №135 "Народнай волі" (27 ліпеня 1999 г.) быў надрукаваны артыкул Анатоля Сідарэвіча "БНФ хочет создать свой парламент вместо Верховного Совета", дзе аўтар некалькі разоў называе мяне і цытуе дакумент. Прыкра, што палітычны дзеяч аперыруе фактамі, не праверыўшы іх, хаця добра мяне ведае і нават з'яўляецца сааўтарам макета падручніка па гісторыі Беларусі, якім карыстаюцца настаўнікі ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Мог бы ён зняць трубку і спытаць мяне пра гэтую справу.

Артыкул надрукаваны ў "Народнай волі" 27 ліпеня гэтага года, а я яшчэ 8 ліпеня выйшаў з саставу ініцыятыўнай рабочай групы па ўтварэнні грамадзянскага парламента, хоць і быў абраны яго старшынёй. Так што зласлівыя выпады Анатоля Сідарэвіча фактычна да мяне не маюць дачынення, дарма, што ён з задавальненнем згадвае маё імя.

Я даў згоду ўдзельнічаць у працы гэтай групы пры пэўных умовах. Па-першае, грамадзянскі парламент **не павінен** замяняць сабой Вярхоўны Савет Беларусі, а быць дапамогай яму (і ніякіх выбараў у акругах, дзе ёсць ужо дэпутаты); па-другое, дзейнічаць ініцыятыўная група павінна толькі са згоды сойма БНФ, бо ў ёй сабраліся спачатку сябры БНФ. Пра гэта я гаварыў у інтэрв'ю беларускай рэдакцыі польскага радыё. Я таксама заявіў, што група не павінна дзейнічаць супраць Вярхоўнага Савета як легітымнага органа ўлады.

Намеснік старшыні групы С.Папкоў (ён жа намеснік старшыні БНФ) пачаў рассылаць недапрацаваныя і не ўзгодненыя дакументы ў партыі і арганізацыі. 8 ліпеня ён апублікаваў зварот аб дзейнасці гэтай групы ў гродзенскай газеце "Пагоня", паставіўшы подпісы яе ўдзельнікаў (а подпіс пад зваротам я не ставіў). Але яшчэ да таго, як я атрымаў газету (9 ліпеня), а менавіта 8 ліпеня я і сябра групы А.Трусаў, які цалкам згодзен са мной, напісалі заявы аб выхадзе з гэтай ініцыятыўнай рабочай групы.

Паколькі на пасяджэнні сойму БНФ 10 ліпеня я адсутнічаў, то заяву аб маім (і сваім) выхадзе з саставу групы зрабіў А.Трусаў. Дарэчы, сойм БНФ так і не разгледзеў гэтае пытанне ў той дзень (няма чаго было разглядаць).

10 ліпеня я знаходзіўся ў Вільні на святкаванні 10-х угодкаў Таварыства беларускай культуры ў Літве, дзе сустракаўся са старшынёй БНФ Зянонам Пазьняком і старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім. Кожнаму з іх я паведаміў аб сваім (і А.Трусава) выхадзе з групы і па якіх прычынах гэта зроблена, заявіў, што падтрымліваю Вярхоўны Савет.

За матэрыялы, якія рассылаліся без майго ведама (палажэнне аб групе, дарэчы, яшчэ недапрацавана; пад ім я таксама не падпісваўся) я адказнасці не нясу. Лічу гэта самачыннымі дзеяннямі спадара С.Папкова. Праўда, пасля 8 ліпеня гэта ўжо не самачынныя дзеянні, а дзеянні тых асоб, якія за гэта адказваюць, гэта значыць уваходзяць у састаў групы.

Так што артыкул А.Сідарэвіча заснаваны на аналізе папер, якія не былі зацверджаны ўсімі ўдзельнікамі групы і былі толькі папярэднімі дакументамі. Шкада, што А.Сідарэвіч і рэдакцыя "Народнай волі" не звярнуліся да мяне непасрэдна па гэтай справе. Спадзяюся, што ў спадара Анатоля Сідарэвіча хопіць грамадзянскай мужнасці прызнаць сваю памылку ў дачыненні да мяне і прынесці мне таксама публічна свае прабачэнні.

**З павагай**
**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

*Алег Трусаў:*

## "Жыве Народны фронт!"

Паводле слоў члена аргкамітэта па стварэнні БНФ, члена Сойма фронту і намесніка лідэра парламенцкай апазіцыі Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання Алега Трусава, "Беларускі народны фронт "Адраджэнне" будзе жыць, пакуль будзе жыць нацыянальная ідэя".

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН А.Трусаў адзначыў, што на нядаўнім VI з'ездзе БНФ ён яшчэ раз пераканаўся: "Фронт не прыватная крамка Пазьняка, Папкова ці Крыварота, а справа многіх нацыянальна свядомых людзей". А.Трусаў станоўча ацаніў вынікі з'езду, на якім "людзі выступалі не супраць Зянона Пазьняка і Вінцука Вячоркі, а за іх, прычым аргументы, выказаныя за Вячорку, былі ў шмат разоў больш пераканаўчыя, чым аргументы, выказаныя за Пазьняка. За Вячорку выступіла ў першую чаргу моладзь, якая ідзе да ўлады ў Фронце, а потым, спадзяюся, і ў Беларусі, выключна дэмакратычным шляхам", — заўважыў А.Трусаў. Паводле яго слоў, гэтыя юнакі і дзяўчыны відавочна адрозніваюцца ад "маладых ваўкоў", якія прывялі да ўлады Аляксандра Лукашэнку і потым самі пацярпелі паражэнне, тым, што яны рэалісты, якія трывала стаяць на нацыянальнай глебе і гатовы застацца ў Беларусі пры любой сітуацыі.

Для дасягнення згоды ў Фронце Пазьняк і Вячорка павінны дамовіцца між сабой, лічыць А.Трусаў. На яго думку, асновай дамоўленасці можа стаць такі варыянт стварэння выканаўчага органа БНФ, пры якім Пазьняк зойме пасаду ганаровага старшыні БНФ і прадстаўніка Фронту за мяжой, а Вячорка стане выконваць абавязкі старшыні Фронту ў Беларусі. Акрамя таго, у выканаўчы орган, які прымае рашэнні на аснове прынцыпу аднагалосся, павінны ўвайсці тры намеснікі старшыні БНФ — Павел Севярынец, Юрый Хадыка і Юрый Беленькі. Алег Трусаў выказаў упэўненасць у тым, што "ў Пазьняка хопіць розуму, такту і духоўнасці пайсці на пагадненне такога роду і на аднаўленне Сойма, у якім будуць прапарцыянальна прадстаўлены маладосць і вопыт, а таксама на перабудову работы Фронту рукамі маладых".

**Марат ГАРАВЫ.**

## Завяршыў работу праект МФК "Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі"

Завяршыў сваю работу праект Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) "Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі", які ажыццяўляўся пры фінансавай падтрымцы Брытанскага фонда Ноу-Хау. Як нам паведамілі ў беларускім прадстаўніцтве МФК, рэалізацыя гэтага праекту пачалася ў снежні 1995 года ў адказ на просьбу ўрада Беларусі аб аказанні дадатковай дапамогі прадпрыемствам, прыватызаваным у рамках праекту МФК "Малая прыватызацыя ў Беларусі", якое фінансуецца Агенцтвам ЗША па міжнародным развіцці. Мэтай праекту было аказанне кансультацыйнай і тэхнічнай дапамогі развіццю прыватнага прадпрымальніцтва.

На першым этапе праекта — у сакавіку 1996 года — быў адкрыты бізнес-цэнтр ў Брэсце. Спецыялісты МФК падрыхтавалі мясцовых кансультантаў і выкладчыкаў, якія сталі аказваць кансультацыйныя і навучальныя паслугі прадпрымальнікам Брэсцкай вобласці.

Паспяховая работа Брэсцкага бізнес-цэнтра дазволіла адкрыць у траўні 1997 года яшчэ адзін бізнес-цэнтр — у Гродна. Зараз абодва цэнтры зарэгістраваны як самастойныя юрыдычныя асобы і працягваюць сваю работу ўжо на прынцыпах самаакупаемасці. У 1998 годзе Брэсцкі бізнес-цэнтр перайменаваны ў Брэсцкую кансалтынгавую групу.

За ўвесь перыяд дзейнасці бізнес-цэнтраў у Брэсцкім і Гродзенскім рэгіёнах было праведзена 98 курсаў, семінараў і "круглых сталоў", у якіх узялі ўдзел каля 2000 прадпрымальнікаў. Прадпрымальнікі, якім у бізнес-цэнтрах была аказана дапамога па складанні бізнес-планаў, атрымалі ад крэдытораў і інвестараў фінансаванне сваіх праектаў у памеры каля 6 мільёнаў долараў ЗША.

Яшчэ адным накірункам дзейнасці праекту з'яўлялася тлумачэнне праз сродкі масавай інфармацыі важнасці ролі прыватнага бізнесу для эканомікі Беларусі і правядзенне мерапрыемстваў, накіраваных на ўмацаванне грамадскага даверу да прадпрымальнікаў. У рамках праекту штомесяц выпускаўся юрыдычны бюлетэнь, дзе адсочваліся змяненні, якія адбываліся ў галіне заканадаўства, прыводзіліся каментары да заканадаўчых і нарматыўных актаў. Бюлетэнь бясплатна рассылаўся па 72 цэнтрах падтрымкі прадпрымальніцтва і іншых арганізацыях, якія аказваюць дапамогу ў развіцці прыватнага бізнесу, і атрымаў высокую ацэнку прадпрымальнікаў. Для маладых прадпрымальнікаў была выдадзена серыя брашур, у якіх змяшчаліся адказы на найбольш важныя пытанні для тых, хто збіраецца адкрыць уласную справу.

**Наталля КУЛАГІНА.**

## У чэрвені—ліпені ў вадаёмах Беларусі патанулі 734 чалавекі

Па дадзеных Беларускага таварыства выратавання на водах, на працягу чэрвеня—ліпеня ў рэспубліцы патанулі 734 чалавекі. Усяго ж з пачатку гэтага года ў вадаёмах Беларусі патанулі 1.068 чалавек, у тым ліку 136 дзяцей.

Пераважная большасць няшчасных выпадкаў, як адзначаюць спецыялісты, адбываецца на вадаёмах, дзе адсутнічаюць ратавальныя пасты і служба хуткай дапамогі. Часцей за ўсё месцам трагедыі становяцца вадаёмы, не прыстасаваныя для купання, — пажарныя рэзервуары, тэхнічныя вадаёмы і кар'еры. Для параўнання: у месцах, дзе разгарнуты пасты ратавальных службаў, за чэрвень і ліпень патанулі 2 чалавекі.

**Аляксандр ПАПОВІЧ.**

Тюремные университеты

# Беззаконие

*В предыдущей публикации рассказывалось, как задерживали известного депутата Верховного Совета, правозащитника Валерия Щукина. Сегодня — о том, как судили*

*(Продолжение. Начало в N142 за 6 августа 1999 года.)*

Административный судья при ГОМ-1 Ленинского района Дмитрий Жданок, назначенный на эту должность месяц назад, был ошарашен: в кабинет судьи обвиняемого... вносили. Причем озадачен был, видимо, настолько, что даже забыл азы судопроизводства. Не объявив состав суда, не назвав, какое рассматривается дело, кто привлекается к ответственности, не разъяснив участникам процесса права и обязанности (статья 258 КоАП), Дмитрий Владимирович начал судебный процесс с... оглашения протокола об административном правонарушении.

Пришлось обвиняемому напомнить судье его обязанности по части ведения судебного заседания. Но вот кто напомнит административным судьям их обязанность готовиться к рассмотрению дела (статья 255 КоАП)? А именно:

— проверить, правильно ли составлен протокол;

— извещены ли лица, участвующие в рассмотрении дела;

— установить, имеются ли к суду ходатайства.

Судья Жданок **не имел права начинать судебный процесс, поскольку не извещал Валерия Щукина о времени и месте рассмотрения дела**. Не был извещен об этом и адвокат обвиняемого, а также свидетели. Более того — в соответствии с решением пленума Верховного суда от 25 марта 1999 года (пункт 3) судья Жданок обязан был вернуть протокол в ГОМ, так как при составлении протокола обвиняемому не были разъяснены права и обязанности; не указаны виды и размеры ранее наложенных взысканий, а фамилии свидетелей-милиционеров вписаны уже после подписания протокола обвиняемым.

Дмитрий Владимирович настойчиво пытался "облагодетельствовать" меня дежурным адвокатом, и лишь категорическое требование участия в деле только своего защитника (статья 62 Конституции) вынудило судью пойти на попятную и отложить слушание дела до прибытия моего адвоката. Но до этого часа я, как лицо, привлекаемое к административной ответственности, должен был, по его мнению, содержаться под арестом в камере ГОМ.

И вновь обвиняемый по административному делу Валерий Щукин учил судью уму-разуму. Ведь чтобы содержать меня в камере после начала процесса, судья должен вынести постановление о применении меры пресечения — содержание под стражей. Однако оснований для этого не было. И пришлось Дмитрию Владимировичу выписывать мне повестку, а дежурному по ГОМ возвращать, скрипя от ярости зубами, незаконно изъятые вещи и документы. В том числе документ, удостоверяющий личность, который суд обязан был проверить перед началом процесса. Ведь милиция вместо, скажем, Петрова способна подсунуть судье Сидорова. В результате такой безответственности Дмитрий Владимирович может отправить невиновного под арест, а в будущем, при рассмотрении уголовного дела, и под расстрел.

Появление на процессе адвоката не остановило незаконные действия судьи Жданка. Попирая статью 114 Основного Закона об открытом разбирательстве дел во всех судах, под предлогом отсутствия стульев в кабинете Дмитрий Владимирович пытался не допустить на процесс прессу. В нашем государстве, судя по всему, участникам судебного процесса необходимо приходить в суд с собственными стульями. Как делают это нынче пациенты многих белорусских больниц — приходят на лечение со своими кружками и лекарствами.

Упомянутый выше пленум Верховного суда обратил внимание судей на соблюдение принципа **презумпции невиновности** и при рассмотрении административных дел (пункт 1). Напомнил судьям, что **привлекаемый к административной ответственности не обязан представлять доказательства своей невиновности**. Обязанность доказывать совершение правонарушения **возлагается на должностных лиц, составивших протокол** об административном правонарушении (пункт 4).

Но должностные лица ГОМ-1, составившие протокол, не только не представили доказательства моей виновности, но даже не явились в суд. Зато было предъявлено неопровержимое доказательство оговора меня сотрудниками милиции. Это — аудиозапись событий, имевших место в здании суда Ленинского района. Судья Жданок прослушал диктофон, свидетельницу, на глазах которой происходили утренние события в здании Ленинского суда, и заявил, что верит лишь показаниям милиционеров. Получается, что постановление пленума Верховного суда о **распространении презумпции невиновности на привлекаемых к административной ответственности** для судьи Жданок обязательным не является.

"Высокое" указание о водворении строптивого парламентария и правозащитника за решетку не может служить основанием для нарушения закона и прав человека. Рано или поздно, но составителям фальсифицированного протокола и лжесвидетелям в милицейских погонах за свои действия придется держать ответ. Оправдываться придется и работникам правосудия.

Ведь санкции на привлечение к административной ответственности депутата парламента Валерия Щукина у судьи Жданка не было. Устное указание и письменная санкция вовсе не синонимы. Прекрасно понимая это, Дмитрий Владимирович предпринимает неуклюжую попытку "прикрыть задницу": указывает в постановлении, что Валерий Щукин — безработный. А ведь в протоколе судебного заседания рукой секретаря записано: место работы привлекаемого к административной ответственности — Верховный Совет 13-го созыва.

Но помимо этого судья Дмитрий Жданок и секретарь суда Людмила Попеко пошли на прямую фальсификацию. Из дела изъят протокол первого незаконного заседания суда. Я отрицал свою вину и потому, в соответствии с уже упомянутым постановлением пленума Верховного суда (пункт 13), ведение протокола заседания суда обязательно.

Судья Жданок по своей профессиональной подготовке к занимаемой должности, на мой взгляд, не готов. Он даже не знает, что срок административного задержания засчитывается в срок административного ареста (статья 305 КоАП). Как иначе можно объяснить его постановление об исчислении срока назначенного мне 15-суточного ареста с момента объявления?

Весьма своеобразное представление у этого юриста о правах человека вообще. Поскольку Дмитрий Владимирович отправлял меня под арест без туалетных принадлежностей, без запаса продуктов на два дня, в течение которых в окрестинской тюрьме не кормят, я обратился к судье с ходатайством об исчислении срока с утра следующего дня. Это предусмотрено статьей 280 КоАП. Однако судья Жданок отказал, мотивируя свое решение моим... плохим поведением.

Лишать человека возможности почистить зубы, вымыть руки, вытереться полотенцем, пользоваться туалетной бумагой, сменить нижнее белье — преступление. Для Дмитрия Жданка это, кроме того, превышение власти (статья 167 УК). Ведь Кодекс об административных правонарушениях не предусматривает такой меры наказания за плохое поведение, как лишение пищи и туалетных принадлежностей. Но... раз есть приказ сверху, то, похоже, белорусский суд, как и белорусская милиция, на законы не смотрит.

Зато в законы смотрю я. И потому Валерия Щукина вновь вынуждены были тащить. Но теперь уже волокли сверху вниз к дежурному ГОМ-1 в бетонную камеру без окон и вентиляции, но с металлической дверью.

**Валерий ЩУКИН,**
**депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, правозащитник.**

*(Продолжение следует.)*

Стоп-кадр




Рабочие вешают фирменный щит республиканского объединения "Белтелеком" на стене одного из зданий на Партизанском проспекте в Минске.

**Фото IREX/ProMedia.**

Впечатления

## Могилы...

Недавно была годовщина смерти моего дедушки, и мы с мамой отправились на Московское кладбище к его могиле. По пути решили посмотреть, кто похоронен на главной аллее кладбища напротив входа. Каково же было наше удивление, когда рядом с шикарно обустроенными, досмотренными могилками и памятниками Владимиру Короткевичу, Заиру Азгуру, Ивану Чигринову мы обнаружили две заросшие травой неухоженные могилы. Собственно, таких немало на кладбище, но полустертые таблички на этих говорили, что здесь похоронены известный прозаик Борис Саченко и народный поэт Беларуси Пимен Панченко... Я подумала, что неверно прочитала надписи, хотя все на самом деле было верно.

Думаю, это поразило не только нас с мамой. Странно, почему после смерти многие известные люди недостойны мраморной памятной плиты или хотя бы ухоженной могилы. Мне кажется, это свидетельствовало бы о том, что они нам действительно дороги, что их помнят и ценят. Мне кажется, многие из них не заслужили такого обращения...

**Вита МАРКЕВИЧ, 16 лет. Минск.**

## Гомельскаму прафесару Ю.Бандажэўскаму прад'яўлена афіцыйнае абвінавачанне ў атрыманні хабару

Былому рэктару Гомельскага дзяржаўнага медінстытута, прафесару Юрыю Бандажэўскаму прад'яўлена афіцыйнае абвінавачанне ў атрыманні хабару па артыкуле 169 частка 3 Крымінальнага кодэкса. Пракуратура Рэспублікі Беларусь, якая вядзе гэтую крымінальную справу, абрала яму меру стрымання ў выглядзе знаходжання пад вартай. Акрамя рэспубліканскай пракуратуры, расследаваннем справы займаюцца супрацоўнікі пракуратуры Гомельскай вобласці; аператыўную дапамогу ім аказвае абласное ўпраўленне Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС. Нагадаем, што Ю.Бандажэўскі быў затрыманы 13 ліпеня. Крыху раней аператыўнікі арыштавалі яго намесніка Уладзіміра Раўкова, якому на другія суткі прад'явілі абвінавачанне ў хабарніцтве. Увесь гэты час Бандажэўскі знаходзіўся пад прэвентыўным затрыманнем. Пры вобыску, праведзеным у яго кватэры, гаражы і рабочых кабінетах, грошай знойдзена не было, у адрозненне ад Раўкова, у якога знайшлі значную суму ў замежнай валюце. Менавіта гэтая абставіна, з-за адсутнасці афіцыйных каментараў, дала падставу шмат каму меркаваць, што Юрый Бандажэўскі паплаціўся за свае погляды на чарнобыльскую праблему, якія адрозніваюцца ад афіцыйнага пункту гледжання. Аднак, як паведамілі БелаПАН следчыя, якія вядуць справу Бандажэўскага, падазрэнне — а цяпер ужо абвінавачанне — грунтуецца на сур'ёзных доказах яго ўчынкаў не як вучонага, а менавіта як адміністратара. Так, карэспандэнту БелаПАН былі паказаны экзаменацыйныя працы студэнтаў апошніх гадоў, дзе следства знайшло няправільны падлік ацэначных балаў, выпраўленні, выкананыя дзеля падгонкі агульнай адзнакі пад вышэйшы бал, а таксама "незаўважаныя" памылкі, спісаныя, але высока ацэненыя працы і, наадварот, неапратэставаныя "двойкі", якія не перашкодзілі іх аўтарам стаць студэнтамі медінстытута. Паводле слоў следчых, імі прааналізавана прыкладна трэцяя частка спраў, і толькі адзінкі з іх не маюць заўваг экспертаў.

Паралельна следства вядзе работу з бацькамі, якія прызнаюцца, што "падстрахоўвалі" паступленне дзяцей пэўнымі сумамі: іх памер вагаецца ад 2 да 4 тысяч долараў. Следства мяркуе, што выяўленыя шматлікія фальсіфікацыі прац абітурыентаў рабіліся не без ведама і асабістай зацікаўленасці рэктара. Як паведамілі ва ўпраўленні па арганізаванай злачыннасці і карупцыі, усе грамадзяне, якія дабраахвотна заявяць у міліцыю пра свой выпадак, не будуць прыцягвацца да адказнасці, роўна як і выкладчыкі, якія працавалі ў прыёмнай камісіі або выступалі ў ролі пасярэднікаў. Пры гэтым упраўленне заявіла, што не мае намеру ставіць пытанне аб адлічэнні з інстытута студэнтаў, чыі працы цяпер з'яўляюцца рэчавымі доказамі.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

Новейшая история

## Продолжение афганской темы... и не только

Относительно людских потерь в Афганской войне 1979—1989 гг. было заявлено сразу после вывода ограниченного контингента советских войск из той зловещей катавасии.

Так, газета "Собеседник", №4 за 1991 год, впервые назвала (официально) число погибших афганцев, в основном мирных жителей — около 1 млн. человек. Затем газета "Контингент", №2 (20), издаваемая в Оренбурге бывшими воинами-интернационалистами, подтвердила те жертвы афганского народа в целом. Позже в прессе число людских потерь афганской стороной... корректируется, и называется уже цифра ровно в 1 млн. человеческих жизней. Сейчас вот — свыше 1 млн. (!) афганцев значится погибшими в результате 9-летнего советского военного присутствия в стране гор, алмазов, верблюжьей колючки, конопли и феодальных устоев, а СА, дескать, потеряла там только 14 тыс. 453 своих солдат и офицеров. Но время, как это зачастую бывает, в конечном итоге преподносит достоверные факты по всем большим и малым событиям.

Сделаем короткий экскурс в недавнюю историю. В Корейской войне 1950—1953 гг. в числе общих потерь гражданское население составляло 84%, во Вьетнамской 1964—1973 гг. — 98%, в Афганистане же процентный показатель варьируется в пределе 85% гибели мирных жителей. Отсюда и неудивительно, что Советский Союз так сильно "наследил" по ту сторону Гиндукуша.

Да, современная война, в которой задействованы все виды вооружений, не знает иных последствий, кроме как широкомасштабного уничтожения всего и всех. Тенденция к увеличению жертв на рубеже веков — неизбежная реальность воюющих государств. (Югославская же война 1999 года — это совершенно иная весовая категория, ибо Белград не находился в состоянии войны ни с одной страной: вооруженные силы Югославии отбивались только от железных ястребов Североатлантического блока (НАТО), которые на протяжении двух с лишним месяцев налетали огромными стаями на территорию южных славян и довольно точно поражали беззащитные цели...). Такова, откровенно говоря, правда современных катаклизмов и локальных войн. Ведь мир не прост. И чем дальше цивилизация планеты Земля будет продвигаться во времени и пространстве, тем шар земной будет еще более хрупким и неспокойным. Поэтому, уважаемые соотечественники, беречь то, что имели, — святой долг и обязанность каждого гражданина Республики Беларусь! Как ни крути, а наивеликое достояние народов — это прежде всего иметь свое место под солнцем. И если кому-то хочется игнорировать прописные истины о том, что ДЗЯРЖАВА — МОВА — НАЦЫЯ — СУВЕРЭНІТЭТ — никчемные ценности для нас, белорусов, — тот либо плут, либо самодур, либо круглый болван.

**Александр ШУСТОВСКИЙ.**
г. Борисов.

